Opłata pocztowa opłacona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 25 грошай.

№ 3—(43) 14 студня 1928 году. Год II.

# Беларускі Дзень

ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: | Падпісная цана: | Цана абвестак: |
|---|---|---|
| Wilno (Вільня), Мастовая вул. № 9. кв. 3. Тэлефон № 1207. | На 1 месяц—1 зл., на 3 месяцы—3 зл., на паўгода — 5 зл. і на год — 9 зл. Заграніцу ўдвая даражэй. | За цэлую апошнюю старонку—120 зл., за 1/2 — 65, за 1/4—35, за 1/8—20 зл. За мілімэтравы радок перад тэкстам 25 гр., у тэксьце 30 гр. і за тэкстам 10 гр. |

**Просім паважаных чытачоў зьвярнуць увагу на зьмену нашага адрэсу: з 10 студня Рэдакцыя і Адміністрацыя наша месьціцца на Мастовай вуліцы № 9 кв. 3.**

## АБ'ЯДНАНЬНЕ.

„У аб'яднаньні сіла", кажа мудрая прыказка. Праўдзівасьць гэтае прыказкі сьцьвярдзіў кожны сам у сваём жыцьці, бо-ж што можа зрабіць чалавек адзін?

Збудаваць дом, вывезьці з лесу куплены будаўляны матар'ял, асушыць балота — ўсяго гэтага адзін селянін зрабіць не патрапіць. Кліча тады суседзяў і аб'яднанымі сіламі дабіваецца свайго.

Яшчэ больш выразна адчуваецца патрэба еднасьці, лучнасьці ў палітычнай працы.

Сам грамадзянім, без прыналежнасьці да якое-небудзь партыі нічога зрабіць ня зможа. Яго голасу ніхто не пачуе і ўслухацца не захоча.

Дзеля гэтага патрэбна істнаваньне партыяў, каб у іх і праз іх выяўлялася воля і жаданьні сялянства.

Толькі цераз сільныя сялянскія партыі зможа працоўны земляроб паправіць свой лёс, абараніцца ад крыўдаў і пазбавіцца ўсіх злыбедаў, якія абселі вясковае нашае жыцьцё.

Мы, беларусы, дамагаемся зямлі, школы ў роднай мове, права працаваць ува ўрадах, самаўрадах, дроў на адбудову і г. д.

Але, жывучы пад Польшчай, у граніцах Польскае Рэспублікі, маем побач сябе і тых сялян, якія лічаць сябе палякамі, а так сама літоўцамі. Як у нас, беларускіх сялян, так сама і ў польскіх і літоўскіх, падобныя беды і аднальковыя вясковыя патрэбы. У змаганьні з гэтымі супольнымі злыбедамі, у барацьбе за паправу свайго жыцьця мы найлепш асягнем перамогу, калі злучаныя ў адну вялікую грамаду, разам, беларусы, палякі і літоўцы, якія пражываюць побач на літоўска-беларускіх землях, у Заходняй Беларусі, будуць змагацца за лепшыя ўмовы жыцьця.

Дагэтуль нас, тутэйшых сялян, разьбівалі розныя хітрыя агітатары, кажучы, што наш сусед, селянін-паляк, ці літовец, ня можа быць нашым таварышам у вялікім сялянскім хаўрусе і змаганьні з крыўдай і бядою.

Браты сяляне, гэта — няпраўда. Усіх такіх агітатараў ганеце проч. Кожны з нас сялян, ці беларус, паляк, ці літовец на землях Заходняе Беларусі аднолькава хоча мець свой уласны кусок зямлі, з якога хапіла-б хлеба для яго сям'і ад жніва да жніва, кожны хоча паменшаньня падаткаў, кожны хоча справядлівага ўрадоўца, з якім бяз страху мог-бы гаварыць.

Кожны з нас адчувае крыўду, калі мясцовую зямлю забіраюць прывезеныя здалёк людзі, кожны крыўдзіцца, калі ўва ўрадзе яго не разумеюць.

Ужо шмат якія сяляне вельмі добра зра-

зумелі патрэбу супольнага фронту ўсіх сялян, пражываючых у Літоўска-Беларускіх землях, бяз розьніцы нацыянальнасьці і рэлігіі.

Гаспадарчыя, культурныя і соцыяльныя патрэбы ў нас аднолькавыя, а здаволім іх толькі тады, калі злучаныя разам у вялікую краёвую арганізацыю будзем супольна змагацца пад адным сялянскім сьцягам. Нашых інтарэсаў не абароняць абшарнікі, ні духоўныя, ні работнікі праз свае арганізацыі. Толькі сялянская краёвая партыя дасьць такую абарону.

Ужо гэтую праўду зразумелі лепшыя сялянскія дзеячы і заложылі **Краёвы Народны Саюз Літоўска-Беларускіх Земляў „Аб'яднаньне“.**

„Аб'яднаньне“ змагаецца за зямлю для тутэйшага сялянства, змагаецца з палітыкай асадніцтва, якая крыўдзіла дагэтуль мясцовых землябробаў.

„Аб'яднаньне“ дамагаецца пашаны для кожнае нацыянальнасьці і такіх законаў, якія-б далі магчымасьць свабоднага культурнага разьвіцьця для ўсіх нацыянальнасьцяў.

„Аб'яднаньне“ дамагаецца аўтаноміі для тутэйшага краю з Соймам у Вільні, дзе-б выдаваліся добрыя законы.

## Жадаем тэрыторыяльнае аўтаноміі Літоўска-Беларускіх Земляў.

## Сяляне Беларусы!

Вы самі ўжо добра ведаеце, што рабілі і што зрабілі дагэтуль для Вас розныя палітычныя спэкулянты, розныя „агітатары“ агенты Рагулі і „Грамады“. Расхвальваючы сябе, як цыган хваліць свайго каня, гэтая вашыя „абаронцы“ абяцалі вам і зямлю дарма, і лес дарма, будавалі вам на словах будынкі, давалі вам школу беларускую,— адным словам чуць ня рэкі малочныя з кісельнымі берагамі абяцалі, — а што ж з усяго гэтага вышла? Лопнулі ўсе гэтыя абяцанкі, як мыльны пузыр,—а селянін наш, як сядзеў, так і сядзіць ля разьбітага карыта.

Зямлі ня толькі дарма не далі — але і за грошы селянін ня можа яе дакупіцца; (сабе то Рагуля трошкі падкупіў)—лес даражэе, вясковыя будынкі валяцца, а шмат людзей, дзе быў фронт, і сягодня сядзяць у зямлянках, дарогі папраўляюць, але з сялянскае кішэні — адным словам у боты не абулі,—але лапці жабрацкія селяніну справілі і пусьцілі па сьвеце.

**Браты сяляне!**

Пры новых выбарах у Сойм, ашуканцы ізноў вам абяцаюць. Згаварыўшыся з жыдоўскімі і нямецкімі капіталістамі з Шэрэшэўскімі, Грынбаўмамі, прадаўшы сваё сялянскае суменьне, Рагулі ізноў, як у 1922 годзе, хочуць вашых галасоў, а грамадаўскія заправілы з Вільні ізноў хочуць справакаваць вас, як у 1925—1926 годзе і запакаваць вамі вастрогі.

Памятайце, браты сяляне, што апрача няшчасьцяў і гора Рагулі і „Грамадаўскія“ агенты нічога вам не далі.

Памятайце, што з-за іх правакацыі не адзін селянін — зусім нявінна пакаштаваў турмы, бо паверыў ім, а сем'і засталіся без карміцельцаў. Памятайце і вы, бышыя грамадоўцы, які лёс вам прыгатавалі бальшавікі, як вас спаткалі ў Менску, ў Полацку і Воршы, — куды вы ўцякалі ад польскае паліцыі. Замест музыкі і чырвоных

## Ня муштруйце сялян.

Штодзеннае жыцьцё селяніна, як і іншых людзей, складаецца з дробных справаў і клопатаў. Калі гэтыя клопаты і дробныя справы праходзяць памысна, тады ўсё жыцьцё селяніна праходзіць лягчэй і ён з яго задаволены. Калі гэтыя штодзенныя драбніцы і звычайныя справы штодня дакучаюць селяніну і псуюць яго быт, калі штодня мае ён шмат прыкрасьцяў і клопатаў, тады і само жыцьцё яго зьяўляецца цяжкім, селянін тады нездаволены, ня мае тады ён супакою.

Наш селянін мае свае патрэбы і звычаі, якія аддаўна існуюць у нас на вёсцы. Ня ўсе яны мо' добрыя і неабходныя. Ёсьць мо' і благія, трэба іх памалу зьмяняць і з рэштай само жыцьцё выкіне іх з нашага сялянскага быту. Але калі гэтыя сялянскія прывычкі пачне нехта ламаць адразу, раптоўна — тады спаткаецца з нездаволеннем насельніцтва, якое бароніць свае звычаі. і нічога тут дзіўнага. Селянін прывык да сваіх звычаяў, зросься з імі і ня можа лёгка з імі расстацца. Яны выдаюцца яму дарагімі і патрэбнымі, хоць нехта інакш судзіць і хацеў-бы ад'звычаіць ад іх сялянства. Сялянства нашае, трэба прызнаць, мае свае спрадвечныя звычаі і зьмяняць іх лёгка ня хоча.

Што-ж мы бачым? Ці гэты характар беларускага сялянства прыймаецца пад увагу ўладамі? Не. Улады выдаюць шмат распараджэньняў, якія часта надта добрыя і маюць карысьць сялянства на мэце, але правядзеньне гэтых распараджэньняў такое, што выклікае ненавісьць да іх з боку сялян, бо ўлады вельмі востра, не зьвяртаючы ўвагі на магчымасьць селяніна падпарадкавацца нейкаму распараджэньню, змушаюць яго да такога падпарадкаваньня.

Выклікаець гэта шмат непаразуменьняў і непатрэбнага нездаволеньня сялянства.

Прыкладаў даець жыцьцё шмат. Возьмем найбольш частыя. Вось едзець „дзядзька“ з-пад Трабаў ці Ашмяны ў Вільню. Памалу пляцецца гаспадарскі конік, дарога цяжкая і далёкая — едзець ён гадзін дванаццаць, а мо' і больш. Дзядзька не закелзаў свайго каня, бо і нашто, калі ён і так чуць ногі цягне. Аж тут крык — „Стой! Незакелзаны конь — штраф“. „Штраф“ бывае немалы — залатых 30-50. Другі прыклад. У дзядзькі з вёскі дарогаю зламалася загвоздка. Затрымаў ён каня і папраўляе воз. Ізноў голас: „Стаяць нельга — штраф“.

сьцягаў, заместа савецкіх пасадаў, як вы гэтага чакалі і ва што верылі,—вас пасадзілі ў бальшавіцкія вастрогі, разам з крыміналістамі, дзе вас абдзралі, трымалі ў голадзе і холадзе і потым выкідалі назад у Польшчу. Савецкія правакатары—вашыя „правадыры“ з Вільні, якія хочуць сягодня вашых галасоў, паступілі з вамі так, як з сабакамі. І ці-ж пасьля ўсяго гэтага, пасьля таго, калі ня толькі ў Польшчы вас справакавалі, але і ў Саветах вас сотнямі трымалі па вастрогах, вы будзеце больш верыць „Грамадзе?!“

Нічога дзіўнага няма ў тым, што наш селянін ня верыць і ня слухае ўжо рагуляўскіх халуёў і грамадаўскіх агітатараў, якіх гоніць ад сябе проч.

Але браты, сяляне! Ня трэба падаць духам ад таго, што розныя прахадзімцы вас ашукалі і нарабілі вам шкоды.

Трэба шукаць новы шлях і трэба яго знайсьці. І гэты шлях у тым, што сялянства **літоўска-беларускіх земляў павінна аб'яднацца і свой лёс узяць у свае ўласныя рукі. На чужой старане ня знойдзеш шчасьця,**—а ў сябе дома, як ні дрэнна, а ўсё-ж лепей і гэтае **сваё ўласнае жыцьцё трэба будаваць і крок за крокам адваёўваць лепшы Лёс.**

Беларуская Радыкальная Народная Партыя, якая нядаўна заснавалася на нашых землях, — павінна была заснавацца. **Жыцьцё гэтага вымагала, бо ўсе іншыя беларускія партыі толькі змучылі сялян сваім баламуцтвам і авантурамі.**

Наша партыя ня ідзе да народу з каменем у кішані і ня кажа: „Галасуй за мяне і ўсё табе дам“. Толькі адно яна кажа: **Злучайся! Арганізуйся!** Злучайся не навакола абяцанак,— а **навакола сялянскіх жыцьцёвых жаданьняў, навакол легальнае сялянскае праграмы.**

Рагулі злучаюцца з жыдоўскімі капіталістамі,—з нямецкімі фабрыкантамі, грамадоўцы злучаюцца з камуністамі, якія іх водзяць за нос — **мы кажамо—калі злучацца, то толькі з такімі, як і мы, бедакамі, з літоўскімі і польскімі сялянамі** і разам з імі бараніцца ад нашых ворагаў і адваёўваць сабе лепшую сялянскую долю.

Беларуская Радыкальная Партыя ўжо гэта зрабіла.

Яна ўжо ўступіла, як аўтаномная арганізацыя, ў Краёвы Народны Саюз Літоўска-Беларускіх Земляў, куды ўваходзяць усе сяляне без розьніцы нацыянальнасьці і веры.

Мы зрабілі гэта зусім сьвядома, — бо лічым, **што ў магутнай сялянскай арганізацыі ў Народным Саюзе патрапімо лепей бараніць агульныя сялянскія інтарэсы беларускага сялянства. Патрапімо лягчэй дабіцца таго, што нам трэба: і зямлі, і ўладу зрабіць такую, якая народу патрэбна; і з лясамі абшарніцкімі парадак зрабіць, каб за граніцу не ўцякалі; і рэформы падаткаў дабіцца; і суды выбарныя правесьці; і братэрства і роўнасьць на нашых землях для ўсіх народаў устанавіць. Мы лічым, што ўсяго гэтага дабіцца можна зусім легальна,** шануючы Польскую Дзяржаўнасьць і яе прадстаўніка Маршалка Пілсудскага. Але каб дабіцца гэтага—трэба сялянам аб'яднацца і выступаць дружна. З гэтым вялікім клічам — лучнасьці і аб'яднаньня сялянства мы распачалі сваю працу. З гэтым вялікім клічам мы ідзём і на выбары ў Польскі Сойм.

**Няхай жыве аб'яднаньне сялянаў бяз розьніцы нацыянальнасьці і веры!**

**Няхай жыве Беларуская Радыкальная Народная Партыя!**

**Няхай жыве Краёвы Народны Саюз Літоўска-Беларускіх Земляў „Аб'яднаньне“!**

**Наваградзкі Акружны Выбарчы Камітэт Б. Р. Н. П.**

Адрэс: Наваградак, Замковая вуліца, Гасьцініца Багаціна.

**СЕЛЯНІН! 15-га сьнежня апошні дзень, калі ты мусіш спраўдзіць ці ўнесены ты і твае знаёмыя ў сьпісак выбаршчыкаў у Сойм і Сэнат!**

---

Хто-ж ня ведае нашых дарог. Ехаць па іх прыходзіцца так, каб якнайлягчэй праехаць з возам. Прыходзіцца дзеля гэтага часта ехаць і левым бокам дарогі, калі на правым бездарож. А ўхопяць—ізноў штраф. Праўда, патрэбны парадак на дарогах, але ці-ж так гэтыя парадкі ўводзіць? І для каго гэта робіцца? Для самаходаў, ведама, каб ім гладзенька можна было праехаць. Але возьмем і палічым, колькі ёсьць самаходаў, а колькі сялянскіх вазоў? Ці-ж ня лепш было-б прыпільнаваць тых, што езьдзяць самаходамі, каб ня езьдзілі павар'яцку і ня пужалі сялянскіх коняй. Імчыцца гэткае ліха і на нічога не зьвяртаець увагі, а часта зумысьля пужае сялянскія коні на дарозе. Паноў у самаходах не штрафуюць за тое, што вываротваюць вазы, калі шофэр ня зволініць бегу, праяжджаючы каля палахлівага гаспадарскага каня.

Але прыехаў урэшце дзядзька ў горад, і тут пачынаецца цэлая літанія прыпадкаў, калі можна папасьць пад штраф. Стольк тут усялякіх правіл, стольк муштраваньня, што ўрэшце ён сам ня ведае, як праехаць, куды з канём дзецца.

Кожны тут яго муштруе, кожны сваю хванабэрыю паказвае. Тут нельга затрымацца, там ізноў забаронена ехаць. У вадны вароты ўехаць можна, у другія нельга. Як заяц, стуліўшы вушы, топчацца селянін з возам на месцы і няраз сам ня ведае, куды дзецца. А зробіць адзін шаг „не-папісанаму“ — зараз пратакол і штраф. А ці-ж хто ўмесьце падумае, што селянін едзець сяньмі з таварам некалькі міляў, а ўехаўшы, ў горад, знаходзіць голы брук, з якога пазгортвалі сьнег, каб для гарадзкіх самаходаў было выгадней.

У апошнія часы далося ў знакі нашаму вяскоўцу распараджэньне самога пана міністра аб патрэбніках. А калодзежы? Ці-ж мала з імі па вёсках хлопату і ўсялякіх недарэчнасьцяў? Ніхто ня будзе даказваць, што гэта рэч непатрэбная.

Трэба расстацца з звычаем загаджваньня сьценаў уласнае хаты, трэба бароцца з брудам у нашых вёсках. Але нельга гэтага рабіць так: раз - два! А не, дык зараз кара. Трэба людзям аб'ясьніць, вытлумачыць, паказаць дый памагчы будаваць гэтыя самыя патрэбнікі (бо-ж вымагаецца будаваць з цэменту), і толькі пасьля ўжо накладаць кары. Бо трудна вымагаць ад селяніна, які ня мае чаго ўкінуць у гаршчок, каб ён замест хлеба для сябе і дзяцей купляў цэмэнт і дошкі.

Чаму ня выдадуць кніжак, з якіх селянін даведаўся-б аб шкоднасьці бруду і аб спосабе збудаваньня добрых патрэбнікаў. Бо блага збудо-

## Развал групы Паўлюкевіча.

Апошнімі днямі некаторыя беларускія газэты выдрукавалі дэклярацыю віцэ-старшыні гэтак званае Беларускае Нацыянальнае Рады і Партыі — Мацея Пятровіча, ў якой гэты бліжэйшы супрацоўнік Паўлюкевіча паддае вострай крытыцы ўсю работу Паўлюкевіча і заяўляе аб сваім выступленьні з усіх арганізацыяў, створаных Паўлюкевічам. На „Зьездзе Радных" 6—7 лістапада гэты Пятровіч быў старшынёю зьезду. І наагул — Пятровіч і яго група лічылася галоўнаю апораю Паўлюкевічаўскае арганізацыі.

Гісторыя з віцэ-старшынёю Пятровічам — факт вельмі красамоўны і сьведчыць ён ня больш ня менш як аб тым, што для Паўлюкевіча насталі цяжкія дні, дні развалу ягоных „арганізацыяў".

Яшчэ адзін такі ўдар і ад усяе работы спрытнага доктара застанецца толькі адно мокрае месца. Ізаляваны з усіх бакоў, пакінуты сваімі бліжэйшымі супрацоўнікамі, Паўлюкевіч тым ня менш маець яшчэ нейкія ілюзіі і прэтэнсіі, што да мандату ў Польскі Сойм і стварыў нават свой асобны Выбарчы Камітэт.

Ня трэба быць вялікім прарокам, каб сказаць наперад, што на выбарах Паўлюкевіча чакае такая самая і нават яшчэ большая неспадзеўка, чым тая, якую зрабіў яму Пятровіч.

Як відаць „правадыры" групы Паўлюкевіча зусім страцілі ўсякую здольнасьць „арыентавацца" ў стварыўшайся навакол іх сытуацыі, бо каб у Паўлюкевічаўскіх „лідэраў" была хоць капля здаровага розуму, дык яны сядзелі-б спакойна ў сваёй „Хатцы", падлічвалі-б даходы з „лёто" і ня рыпаліся-б.

## Зямля — мясцоваму сялянству!

## Арышт б. віцэ-старшыні Беларускае Нацыянальнае Рады Пятровіча.

Як нас паведамляюць, у Палачанах арыштованы б. віцэ-старшыня Паўлюкевічаўскіх арганізацыяў, войт Палачанскае гміны Пятровіч. Характэрна у гэтым арышце тое, што ён **акурат супадае з апублікаваньнем праз Пятровіча дэклярацыі** аб выхадзе з арганізацыяў Паўлюкевіча. Само сабою паўстае думка, што беспасярэдным віноўнікам арышту зьяўляецца яго няўдалы патрон. Людзі бліска ведаючыя справу Пятровіча, кажуць, што наагул уся справа Пятровіча выглядаець вельмі таямніча.

Добра і цікаўна было-б, каб гр. Паўлюкевіч растлумачыў, што яго ў свой час зьвязала з Пятровічам, чаму ён так бараніў Пятровіча, афішаваў ім і „вызваляў" з турмы; адным словам, добра было-б, каб быў разьвеяны той густы туман, які акружаець гэтую справу.

## З жыцьця Краёвага Народ. Саюзу.

### Мітынгі Краёвага Саюзу.

3.I.28 г. адбыўся мітынг у Солах. На мітынгу было блізка 1000 асобаў. Выступаў з прамовай грам. Лагода. Мітынг прайшоў вельмі ўдачна.

5.I.28 г. адбыўся мітынг у м-ку Гадуцішках.
6.I.28 г. ў Лынтупах.
8.I.28 г. ў Камаях.
9.I.28 г. ў Паставах.

Мітынгі прайшлі з пасьпехам. На мітынгах выступалі грам. Карвацкі і б. пасол Шапель.

8 I.28 г. адбыўся зьезд дэлегатаў Краёвага

ваны патрэбнік шкоднейшы, чымся яго адсутнасьць. А колькі-ж было штрафаў за гэтыя патрэбнікі, колькі праклёну і нездаваленьня. А дзеецца ўсё гэта не таму, што распараджэньне вышэйшых уладаў благое, а таму, што ўлады на мясцох (стараствы і паліцыя) ня ўмеюць ўвясьці ў жыцьцё гэтых распараджэньняў, каб якнайлягчэй і найразумней застасаваліся-б сяляне да іх і патрапілі іх выканаць. Але гляньма, як выглядаюць гэтыя самыя патрэбнікі ў гарадох, хоць-бы ў самай Вільні? Часта ўвайсьці туды нельга. Селянін гэта ведае і дзівіцца, чаму ў вёсцы ён г.... так сурова пільнуюць, калі ў месьце дзеецца ня лепш.

А штрафы за табаку? Падабаецца гэта, ці не, але ёсьць г. зв. Дзяржаўны Табачны Манаполь, інакш, што толькі дзяржава маець права вырабляць табаку і папіросы. Дзяржава маець з гэтага вялікія даходы. Казна багацее. Але ўсім забаронена гадаваць табаку. Толькі, як гэтая забарона праводзіцца ў жыцьцё?

Селянін прывык да люлькі, ці да папіроскі. Здаўна садзіў ён на свае патрэбы табаку, якой нікому ня прадаў. Курыць ён любіць шмат і часта бяз хлеба абыдзецца, але бяз люлькі не. Аднак вышаў закон, які забараняе садзіць табаку. Закон, — дык яго трэба слухаць. Толькі вось блага, што гэты закон з такой строгасьцяй уведзены ў нас, на Беларусі, што за некалькі каліваў табакі абкладалі сялян вялізарнымі штрафамі. Як ужо мы сказалі, нельга адразу, раптоўна ламаць сялянскіх прывычкаў. Сялянства павінна памалу прывыкаць да таго новага ладу, і не павінна быць крыўджана. Аднак, за пару каліваў табакі часта сустракалі сялян вялікія штрафы. А ці падумаў нехта, ці селянін будзе магчы купіць табаку, ці здолее задыміць люльку, калі не пасее свае табакі? Селянін прывык да моцнае табакі, папіроскай яму люлькі не заменіш. Але, ці хопіць у яго грошай на купленыя папіросы?

Трэба было ўводзіць гэты закон не адразу, а паволі прызвычайваць да яго сялянства. Не, адразу пашлі штрафы, нягаз па сотні залатых за некалькі каліваў табакі, знойдзеных недзе ў бульбе, ці гародніне. Усё гэта без патрэбы скрыўдзіла сялян і выклікала нездаволеньне іх з дзяржаўнага ладу.

Шмат яшчэ якіх дробных, але дакучлівых загадаў улады можна было-б падаць: як куры па дарогах хадзіць ня могуць, як нельга быдла гнаць па дарозе без пасьведчаньня, як хаты трэба разгароджваць, як будаваць хаты з вучонымі плянамі і г. д. А ці-ж мала спатыкае муштраў кожны

Народнага Саюзу ў Ашмяне. На зьезьдзе было прысутных 270 дэлегатаў. Зьезд прыняў да ведама справаздачу дэлегата Выканаўчага Камітэту і выбраў павятовы выбарны Камітэт. З прамовамі выступалі грам. Лагода, Галяс, Чарнаус і іншыя. Зьезд вынес рэзалюцыю наступнага зьместу:

Першы павятовы зьезд дэлегатаў Краёвага Народнага Саюзу „Аб'яднаньне" ў Ашмяне, які адбыўся 8.І.28 г. сьцьвярджае, што дасюлешняя палітыка цэнтральных сялянскіх партыяў была прычынай разьбіцьця сялянства на нашых землях і аслабіла нашыя рады ў барацьбе за зямлю і дабрабыт сялянскіх мас нашага краю. Зьезд сьцьвярджае, што адзіным выхадам у барацьбе за лепшую будучыню нашай вёскі ёсьць злучэньне разьбітых па розных партыях і партыйках здаровых сялянскіх сіл у адзін Краёвы Саюз, які-б злучыў усіх бяз розьніцы нацыянальнасьці, рэлігіі і мовы сялян нашага краю, дзеля больш рэзультатнага асягненьня праз першы народны кангрэс літоўска-беларускіх земляў 27 лістапада 1927 г., на каторым воля сялян нашага краю пастанавіла змагацца, за краёвую народную ўладу, за зямлю для мясцовага сялянства, за школу ў роднай мове і за братэрства народаў. Зьезд падтрымлівае дасюлешнюю палітыку Краёвага Народнага Саюзу і выражае давер'е яго цэнтральным уладам. Няхай жыве Краёвы Народны Саюз „Аб'яднаньне"!

## Колькі ёсьць выбаршчыкаў у Сойм на абшары Віленскага ваяводзтва.

Як мы даведаліся, паводле даных выбарных органаў, на абшары Віленскага ваяводзтва ёсьць упраўненых да галасаваньня 489 тысяч:

| | | |
|---|---|---|
| ў Вільні | 104 | тысячы. |
| ў Віленска-Троцкім пав. | 93 | „ |
| ў Ашмянскім | 47 | „ |
| ў Браслаўскім | 65 | „ |
| ў Дзісьненскім | 68 | „ |
| ў Пастаўскім | 49 | „ |
| ў Сьвянцянскім | 16 | „ |
| ў Вялейскім | 57 | „ |
| ў Маладэчанскім | 70 | „ |

Абшар ваяводзтва разьбіты будзе на 3 выбарныя округі №№ 63, 64 і 65.

Выбарны вокруг 63, у склад якога ўваходзіць м. Вільня, маець 197 тысяч выбаршчыкаў. На вокруг гэты прыпадае 5 мандатаў.

Вокруг 64, з сядзібай у Сьвянцянах, у склад яго ўваходзяць паветы: Ашмянскі, Сьвянцянскі, Браслаўскі і Пастаўскі. Выбаршчыкаў 227 тысяч. Паветы: Віленскі, Вялейскі і Маладэчанскі будуць прыдзелены да Лідзкага выбарнага вокругу № 65, на які прыпадае 7 мандатаў.

## Сіла сялянства.

У легендзе аб сонным войску, аб асілках, якія недзе ў горах чакаюць свайго часу, каб выйсьці на сьвет, пабіць усю дрэнь жыцьцёвую і завясьці справядлівы лад на сьвеце — адбіваецца думка аб найбольшай клясе ў нас, у Беларусі, а таксама ўва ўсёй Польшчы.

Працоўны народ, сялянства, якога ў Польшчы болей як 75 проц., ці тры чацьвёртых усяго насельніцтва, а ў Заходняй Беларусі дык яшчэ болей, сапраўды зьяўляецца сьпячым рыцарам-гэроем, які ў свой час прачхнецца і завядзе справядлівы лад у краі.

Дзяржава складаецца з абшараў, насельніцтва на іх і вярхоўнай улады, ад нікога незалежнай, якая выдаець законы для гэтага насельніцтва. Галоўным складовым элемэнтам з гэтых трох зьяўляецца бязумоўна насельніцтва—народ.

Народ, паводле законаў Польшчы, зьяўляецца тым, да каго належыць паўната ўлады.

Другі параграф польскай конституцыі 17 са-

селянін на рынку ў местах і мястэчках, дзе так і глядзі пад штраф пападзеш.

А возьмем цяпер валакіту па ўрадах. Колькі часу і грошай трэба аддаць для кожнай дробнай справы? Жаль бярэць нераз, гледзячы, як стары селянін ходзіць з паверху на паверх, ад пакою да пакою, ходзіць, шукае ды знайсьці, чаго яму трэба, не патрапіць. Ганяюць яго ад стала да стала, з пакою ў пакой, з аднае вуліцы на другую: то гэта ня так, то тое інакш трэба зрабіць, не на такой паперы напісана, то ня там падпісана, не такое пасьведчаньне — а ўсюды крыва нехта глядзіць ды згары да няшчаснага вяскоўца гаворыць. Адным словам, як кажуць — валакіта, „цяганіна". А выходзе так дзеля таго, што нашыя ўрады не дапасованыя да простага селяніна. Чыя ў гэтым віна — трудна сказаць. Трэба толькі прызнацца, што селянін баіцца ўсіх урадаў, усяе гэтае цяганіны, як трасцы. Не дарма-ж пачалі лаяцца: „Каб ты па польскіх урадах цягаўся". Гэтыя штодзенныя драбніцы, як вошы, заядаюць селяніна. Яны, галоўным чынам, выклікаюць тое нездаволеньне, якое істнуе ў вёсках. гэтыя бесперарыўныя муштры, штрафы і цяганіна атручваюць селяніну жыцьцё. Сялянскія масы — не малыя дзеці ў школе, і пара перастаць іх муштраваць. Не абдарвайце іх дабрадзействам штучнае культуры, стварэце раней варункі лепшага жыцьця, а пасьля ўжо накладайце кары і навучайце.

Кругом галіта і цемра. Дзіравыя саламяныя стрэхі, валяцца хаты, дзеці швэндаюцца босыя з голымі пупамі, нераз хлеба на стале няма, найчасьцей адзін кажух на сям'ю. А тут прыказ, стаўляй патрэбнік з габляваных дошчак і з цэментовай ямай.

Ня муштруйце селяніна на дарогах, у горадзе і ўва ўрадах. Раней апранеце вясковыя дзеці, а пасьля штрафамі заганяйце іх у школы. Урэшце, збудуйце школы, дайце асьвету.

Сялянства нашае шчырае і простае, як простая і шчырая яго цяжкая праца і жыцьцё. Пакуль яно зьяўляецца такім — дапасуйцеся да яго труднага простага жыцьця, да яго патрэбаў.

Сялянства нашае цярплівае і вытрывалае і трудна яго вывесьці з роўнавагі, але нельга атручваць яму жыцьця непатрэбнымі муштрамі.

Дык ня муштруйце сялян!

(„*Wioska*").

кавіка 1921 г. выразна кажа, што „вярхоўная ўлада ў Польскай Рэспубліцы належыць народу". Сойм і Сэнат, Суды і ўрэшце Прэзыдэнт з міністрамі зьяўляюцца органамі народу

Тры чэцьверці гэтага народу, да якога належыць найвышэйшая ўлада, — сяляне. Дык, як выніку такога палажэньня, трэба было-б спадзявацца, што гэтая большасьць насельніцтва краю, сялянская кляса, павінна, маючы верхавенства ўлады, так улажыць жыцьцё ў краі, каб мець найлепшыя варункі свайго быту. Бо хто можа не дапусьціць сялянства да ўлады і панаваньня, калі яго аж тры чацьвёртыя народу, а вярхоўная ўлада належыць яму?

Але жыцьцё паказвае зусім іншы абраз. З усіх клясаў насельніцтва сялянства мае найменшы голас на ўклад варункаў жыцьця і найслабей разьлягаецца голас гэтае вялікае часьці народу. А калі і чутны ён, дык гэта голас крыўджанае, нездаволенае масы. Чаму-ж так дзеецца?

Робіцца гэта адно толькі дзеля таго, што сялянства дагэтуль неарганізованае, мала цікавіцца палітычным жыцьцём, мала чытае, а на справы грамадзкага ладу заглядаецца паводле палітыкі — „мая хата з краю, а я нічога ня знаю — і не хачу знаць".

А галоўная прычына слабасьці сялянства ў яго расьцярушанасьці, у нястачы моцных сялянскіх арганізацыяў.

Паглядзець бо на іншыя грамадзкія групы. Возьмем абшарнікаў. Яны ў нас, у Заходняй Беларусі, арганізованы ў „Związki Ziemian" — кожны павет мае такую арганізацыю. Прадстаўнікі паветаў твораць ваяводзкія абшарніцкія арганізацыі, а ўрэшце прадстаўнікі ваяводзтваў маюць найвышэйшую арганізацыю абшарнікаў у Варшаве. Так мала абшарнікаў у параўнаньні з сялянскай масай, аднак, дзеля свае арганізованнасьці абшарніцтва прадстаўляе сілу, з якою лічацца ўсе дзейныя сілы ў краі. Возьмем цяпер асаднікаў. Іх мала ў Заходняй Беларусі, але ўсе асаднікі маюць свае асадніцкія арганізацыі і, дзякуючы ім, таксама маюць пэўнае значэньне і сілу. Маюць свае арганізацыі работнікі, якія стварылі вялікія прафэсіянальныя саюзы і палітычныя партыі. У шмат якіх краёх, як Англія напрыклад, або Аўстралія, Фінляндыя, Данія, Швэцыя, работнікі даходзяць да такога значэньня, што бяруць у свае рукі кіраўніцтва дзяржавай. Нічога падобнага ня было-б, калі-б работнікі, як сяляне, ішлі ў разброд, а не аднаю арганізованаю дружынаю.

Арганізована таксама духавенства, купцы, фабрыканты, ўсе прафэсіі, бо ў сучасных умовах жыцьця адзін чалавек нічога ня значыць, калі ён ня мае падтрыманьня з боку свае арганізацыі.

Усе пералічаныя намі групы, выключаючы работнікаў, зьяўляюцца як-бы капляй у вялікай сялянскай масе. Іх вельмі мала, аднак значэньне іх без параўнаньня большае, чымся сялянства.

Дагэтуль дзеецца так, што сялянства ў нас адно дае сваю працу, грошы, нарэшце, кроў дзяржаве, а карыстаецца апекаю яе і падмогаю вельмі мала, зусім непамерна да тых ахвяраў, якія дае само.

Хто найбольш плаціць падаткаў? Ведама сялянства, бо яго найбольш у дзяржаве.

Хто дае найбольш сваіх дзяцей у войска? Пэўне-ж сялянства.

Хто падчас вайны кладзе найбольшыя ахвяры дзеля абароны дзяржавы, ахвяры крыві, жыцьця і маемасьці? — таксама сялянскія масы.

А ў параўнаньні з гэтымі ахвярамі, што мае за ўсё гэта сялянства? — Насьмешкі, лаянку „хам", а то й горшае.

Чаму? А ўсё дзеля таго, што няма лучнасьці паміж сялянствам.

Кожная вёска жыве сваім жыцьцём, найчасьцей шкодзячы адна адной. А нават у вёсцы, ці-ж ёсьць дружнасьць, згоднасьць паміж суседзямі і нейкая дбайнасьць аб тым, каб купаю, усе разам бараніцца перад бядою ды крыўдаю?

Не, дагэтуль нашае беларускае ды і ўсё польскае сялянства жыве ў разброд, неарганізована і толькі дзеля гэтага яно слабое і бяз уплы-

---

Агр. Гр. Керніцкі,

# Як даў сабе раду гаспадар Васіль дый яго жонка Параска.

*(Пераклад з украінскага)*

(Гл. № 42 „Бел. Дня").

Апроч чыста жаночае гаспадаркі, Параска ўзяла пад сваю апеку быдла, куры і агарод, ужо да гэтых справаў мне ня можна было мяшацца. Сьвіней даглядаю пад кіраўніцтвам Параскі, бо на яе бялкох у пашы і да гэтага часу нічога не разумею і дзеля гэтага баюся, каб нешта не перапутаць. Ад купленых кароў дачакаліся патомства ўласнага хову, якое паслужа нам на будучыню, бо лазіць па кірмашох і купляць ката ў мяшку Параска ня хоча. Хлеў для кароў я мусіў гэтак уладзіць: зрабіў два вакны, каб каровам ня было цёмна. Жалабы (ясьлі) збудаваў так, каб у часе яды адна карова ня выцягвала і не зьядала тое, што дадзена другой, бо Параска ня ўсім аднолькавую яду дае. Падлогу зрабілі мы з палевай цэглы на кант, а раўкі для адплыву гнаёўкі зрабілі з цэмэнту.

Параска хлеў добра абляпіла дый вымазала так, што ён выглядае як прыгожая сьвятліца і каровы маглі-б сьмела газэты чытаць, каб умелі.

У быдла няма гузоў на хрыбтавіне і яно не абпэцкана гноем, бо Параска кожную раніцу мые, калі якая карова забрудзіцца, а апроч гэтага чэша іх шчоткай 3 разы на дзень, зімой, праўда, выкідаем толькі мокры гной.

Параска кажа, што як будзем калісь перасыпаць хлеў, дык трэба будзе зрабіць так, каб гною зусім не выкідаць, але даўжэй трымаць пад быдлам, бо стары гной куды лепшы для ральлі. Ад паловы траўня быдла пачынае хадзіць на пашу, а зімой выпускаем на двор блізка што на поўгадзіны ў дзень, каб магло выпрастаць ногі, і вось, дзякуй Богу, не хварэюць кароўкі, гадуюцца, як лані.

Як пачалі каровы на вёсцы хварэць па прышчыцу, дык Параска была такой дзіўнай, што я і зразумець ня мог, казала вароты замкнуць на калодку і нават старшыню ўпусьціць на панадворак не хацела, покі той ног ня вычысьціў і ня

ваў на жыцьцё краю. А гэтыя ўплывы, сілу і значэньне сялянства можа і павінна мець.

Але, каб стацца сілай, сялянства павінна прачхнуцца, перастаць спаць, і дружна, ува ўсіх вёсках, засьценках і мястэчках пачаць тварыць сваю сялянскую арганізацыю.

Няхай у кожнай вёсцы ўсе сяляне бяз розьніцы рэлігіі і нацыянальнасьці — бо-ж ува ўсіх тыя самыя патрэбы і адна і тая самая бяда — стварылі б сялянскія арганізацыі. У воласьці была-б такая-ж валасная арганізацыя з прадстаўнікоў вясковых хаўрусоў, у павеце прадстаўнікі валасных хаўрусоў стварылі-б павятовы камітэт, а дэлегаты павятовых камітэтаў стварылі-б ваяводзкі і ўрэшце ў сталіцы краю паўстаў-бы галоўны камітэт на ўсю дзяржаву. Такая арганізацыя мела-б найбольшае значэньне ў дзяржаве, бо яна налічвала-б шмат мільёнаў сяброў.

Аднак, мала было-б стварыць усе гэтыя арганізацыі. Сялянства на мясцох, пачынаючы ад вёсак, мусіла-б пільна сачыць за ўсім тым, што робяць выбраныя імі-ж прадстаўнікі валасных, павятовых і ваяводзкіх камітэтаў. Трэба было-б прыглядацца да ўсіх выступленьняў гэтых выбарных сялянскіх, каб яны ня здраджвалі сваіх выбаршчыкаў, каб не шахравалі сваімі паўнамоцтвамі. І толькі пры такім наглядзе і кантролі гэтыя прадстаўнікі працоўных масаў дбалі-б, аб тым, каб сапраўды палепшыць умовы жыцьця працоўнага народу, які загадваў-бы ім рабіць тое толькі, што выходзіць на карысьць сялянства і краю.

Цяпер у Польшчы і ў нас, у Заходняй Беларусі няма сялянскіх масавых арганізацыяў. А яшчэ некалькі гадоў таму ў Польшчы былі сільныя сялянскія партыі. Масы сялянства належалі ці да „Пяста“, ці да „Вызволеня“ і пры выбарах у 1922 г. гэтыя партыі здабылі шмат галасоў, правялі ў Сойм больш як 100 сваіх паслоў, якім даверыла сялянства. Але, выбраўшы паслоў, польскія сяляне ня дбалі аб тым, што робяць гэтыя іх прадстаўнікі. Яны-ж мелі на ўвазе толькі сваю карысьць, шахравалі направа і налева, каб выцягнуць якнайбольш выгадаў з свайго палажэньня, як прадстаўнікоў народу. Аб патрэбах народу забыліся, хоць так многа абяцалі пры выбарах. Мала таго, устанаўлялі такія законы, якія проста крыўдзілі сялянства.

Бо ведалі, што сяляне ня цікавяцца тым, што робіцца ў палітыцы і ў Сойме, што работа гэтых прадстаўнікоў ня маець ніякага кантролю.

Яны пачалі якшацца з панамі, як „сялянскі войт“ Вітос, або з тымі групамі, якія якраз хочуць панаваць над сялянамі, як камуністыя, якія прызнаюць толькі дыктатуру (панаваньне) фабрычных рабочых, і маняцца адабраць ад сялян навет гэты невялічкі кусок уласнае зямлі. У выніку гэтага сялянскі рух у Польшчы разьбіўся на некалькі групаў, пaвадыры якіх у грызьні адных з другімі нібы працавалі для сялянства. Блага вышла на гэтай „працы“ само сялянства.

Тое самае было ў нас, беларусаў. Выбраныя паслы, замест таго, каб думаць аб паправе жыцьця беларускага працоўнага сялянства, разьбіліся на групы, бо кожны з іх хацеў быць верхаводам. Пачалі лаянку адны з другімі, абкідалі адны другіх усялякім брудам і самі сапраўды аказаліся поўнымі гэтага бруду. Ня было-б таго, каб арганізованая сялянская маса сказала: „Годзі, перастаньце грызьціся, пакіньце лаянку, а працуйце для нас, якія вам даверылі свой лёс!“

Цяпер ізноў маем выбары. Гэтак сама будзе ашукана сялянства, калі яно не захоча разьбірацца ў тым, хто зьяўляецца яго прыяцелем, а хто думае толькі аб пасольскіх грошах.

Хай дружна, як адзін, пойдзе гоман ад хаты да хаты, ад вёскі да вёскі па ўсім нашым краі, няхай паўстане адна вялікая сялянская палітычная і прафэсіянальная арганізацыя, якая-б пагледзіла, што будуць рабіць тыя паслы, якіх выбера сялянства ў Сойм, дзе вырашаюцца ўсе справы краю. Сяляне прачхнецеся, станьце сілаю, якую маеце і якая Вам па справядлівасьці належыць! Вы-ж корміце ўвесь край! Вы сіла!

---

выцер падошваў. А як хто быў босы, дык Параска казала таму абцёрці ногі аб сьцірку, намочаную ў газе.

Мы ня ведаем у нашага быдла, што такое ўздуцьцё, ганячка, зацьвярдзеньне і інш. хваробы, як гэта было ў кароў нябожчыцы маткі. Час ацяленьня кароў Параска так вызначае, каб у нас малако ня выходзіла з хаты праз круглы год. Вось, такім чынам, адна карова целіцца пад зіму, а другая пад весну. Да быка вядзём карову раненька да дня; Параска замаўляе быка і прыводзіць яго ў хлеў, а тады ўвечары нясе яму порцыю высевак з выпараным лубінам (лубінам з якога вымачана горыч), раніцаю гонім да яго карову. Ніколі ў нас ня здарылася, каб карова другі раз пачынала круціцца і родзяцца толькі кароўкі. Зімнія цяляткі купляе ў нас пан з суседняга двара, бо яму нашыя каровы надта спадабаліся. Цялят ссуць па 6 тыдняў адну палову вымя, а другую Параска доіць, бо такая ўжо ўмова з панам была. Ен казаў, што плаціць не за мяса, а за колькасьць малака, якое зьесьць цялё.

Яму важна толькі тое, каб цялё было сільнае і ўмела есьць.

Да ежы цялятка бярэцца хутка, бо Параска дае яму канюшыну і цёртае лянное семя з высеўкамі. Высеўкі дае ўжо на 4 тыдні, сыплючы патроху да карытца, а, як цялё навучыцца есьці, дык дастае $^1/_2$ фунта цёртага ляннага семя і 1 фунт высевак. Як цялё адлучыцца ад каровы, дык дастае два разы столькі пашы дый добрае сена, аж покуль не пайдзе на пашу. Вясновыя цялятки прадаём на мяса, бо гадоўля іх не аплачваецца, а гэта дзеля таго, што яны дрэнна растуць. Да году трымаем цялё ў асобнай загарадцы і ня прывязваем яго. На пашы прывязваем на вяроўцы даўжынёй у $1^1/_2$ сажня, а каровы прывязваем на вяроўку, альбо ланцуг даўжынёй да $2-2^1/_2$ саж. Штодня перасоўваем іх на даўжыню шнура, бо трава на пасьбішчы буйная і кароўкі маюць што есьць, а як іх ня прывязваў-бы, дык яны зьелі-б усю траву і не папасьвіліся-б. Быдла ў полі праз увесь дзень, там яго і поім і доім, а пастух нам зусім не патрэбны. На нач дастаюць каровы ў хляве люцэрну. Зімой кормім іх паранай сечкай. Параска казала мне зрабіць тры скрыні. Да кожнае з іх даём сечку, моцна паліваем яе халоднаю вадой, сьціскаем, накрываем

# Сельска-гаспадарчы аддзел.

## Бульба (Solanum tuberosum).

Бульбу паботанічнаму адносяць да аднае і тое самае сям'і, што і табака. Лічаць, што бацькаўшчынай бульбы ёсьць Паўднёвая Амэрыка — провінцыя Чылі, дзе яна і да гэтага часу спатыкаецца ў дзікім відзе. Бульбу першы раз прывязьлі да Італіі, ў канцы пятнаццатага веку, дзе яе паітальянску за падобнасьць да трюфэляў (пад'земных грыбоў), назвалі „тартуффолі, а пасьля яна папала ў Нямеччыну, адкуль і атрымала назоў—картофэль.

У працягу XVII і XVIII вякоў бульба разыйшлася па ўсёй Эўропе, але спачатку яе ня ўмелі добра садзіць і яна ня была вядомаю шырокім масам, бо яе называлі „чортавым яблыкам“ і лічылі за грэх есьці. А цяпер бульба разыйшлася амаль па ўсім сьвеце, і ў Эўропе яна займае каля $^1/_5$ часьці ўсіх ворных грунтоў.

Дзеля яды бульба вельмі надаецца дзеля таго, што мае ў сабе да 20% крахмалу, а бялкоў мае ня больш як $1^1/_2$—2%, жыру да 1% і вады 77%. Цяпер што ні год, то ўсё выводзяць новыя гатункі бульбы, якія бываюць усё больш ураджайныя. Найбольш бульбы садзіцца ў Ірляндыі і Нямеччыне (Сілезія),

Гатункі бульбы адрозьніваюць, апрача колеру красак і цяўніку, яшчэ і па колеры клубняў, якія бываюць: белыя, сінія, жоўтыя і чырвоныя. Апрача таго, бульба дзеліцца яшчэ на сталовую (для людзей), фабрычную, якая ідзе на выраб сьпірту або крахмалу, і на кармавую для жывёлы.

У залежнасьці ад таго, што ня ўсе гатункі бульбы пасьпяваюць у адну пару, яна мае гатункі: раньнія, сярэднія і позныя. Раньнія гатункі бульбы пасьпяваюць ужо ў якіх 16 — 18 тыдняў; сярэднія—ў 20 — 22, а позныя патрабуюць для поўнага свайго разьвіцьця да 25 — 26 тыдн., пры гэтым трэба заўважыць, што позныя гатункі заўсёды найбольш ураджайныя.

Дзе мы бульбу ні разводзілі-б, дзеля яе трэба выбіраць самыя пухкія грунты, бо на цяжкіх і сырых грунтох яна не ўдаецца. Наагул кажучы, да грунтоў бульба невымагальная і часта найлепш удаецца на грунтох лёгкіх. Дзеля яе найбольш падходзяць грунты багатыя перагноем суглінiстыя, або пясчаныя суглінкі. Чым больш у грунце пяску, тым ураджай будзе меншы, але затое зьмест крахмалу ў клубнях будзе большы. Грунт пад бульбу павінен быць урадлівы сам па сабе, альбо добра ўгноены, пры гэтым гной пад бульбу добра даваць за год да пасадкі, і толькі на пясчаных грунтох даюць гной у тую самую вясну, калі садзяць.

Дзеля зьберажэньня гною, яго варта класьці толькі ў баразны, ў якія садзяць бульбу. З штучных гнаёў бульба вельмі патрабуе — попелу, калійных або паташовых: кайніту якіх 300 кгр. (18 п.), які павінен быць расьсеяны лепш з восені, або вясною, калійнае солі 200 кгр. (12 п.) і гэтулькі ж супэрфосфату. З гэтага можна бачыць, што бульбу лепш садзіць пасьля азімых, а пасьля яе сеяць яравое. Трэба добра памятаць, што на лягчэйшых грунтох, там, дзе ўдаецца лубін, вельмі добра садзіць бульбу па лубіне. Шмат якія дасьведчаньні нераз даказвалі, што па лубіне бульба дае ўраджай ў $1^1/_2$ разы, як па аборніку: гэта лёгка зразумець, бо карэньне лубіну пракладвае дарогу для бульбы, рыхліць зямлю і ўзбагачае азотам.

Вапнаваць зямлю, як некаторыя гэта робяць, пад бульбу трэба вельмі асьцярожна: бо вапна выклікае паршы на бульбе. Толькі на цяжкіх

---

дошкамі і прыцiскаем каменьнямі, каб запарылася. На другі дзень сечка ўжо гарачая, і я даю каровам адну скрынку. У гэты-ж самы дзень накладаю ў парожнюю скрынку новую сечку. Калі-б сечка стаяла больш як тры дні, дык пачала-б цьвісьці, што магло-б зашкодзіць каровам. Сечка складаецца з 5 частак канюшыны і 4 частак яравой саломы, да якой дадаю яшчэ сечаных буракоў. Гатакай пашы дастаюць каровы столькі, сколькі могуць зьесьці.

Апроч таго, дастае яшчэ карова фунтаў 5 высевак, фунты 4 лубіну і 1 фунт цёртага ляннага семя. Апрача таго, часам дадаём яшчэ высевак на малако.

Для гэтага маем пасудзіну бляшаную на $1^1/_2$ літры, падзеленую на 5 частак; за кожныя $2^1/_2$ літры малака дастае карова $^1/_5$ літра высевак, каб мела з чаго вытвараць малако. За 5 літраў дастае $^2/_5$ меркі і г. д.

Зярняты лубіну Параска пазбаўляе горкасьці такім чынам: сыпле на кіпень $1^1/_2$ пуда лубіну так паволі, каб вада не перастала кіпець. Гэтак варыцца лубін 2 гадзіны, пасьля чаго, для адгарчэньня, мочыць 12 гадз. у халоднай вадзе. Гэтую халодную ваду трэба што 4 гадз. зьмяняць. Калі мачэньне скончана, дык сушым яго ў печы пасьля хлеба, і тады дзяром у жорнах.

Каровы кормім адразу па даеньні, бо тады карова стараецца хутка і добра аддаць малако, каб хутчэй дастаць ежу, і ня было здарэньня каб карова затрымала малако.

Пасьля ежы поім каровы, даючы летам сьвежую ваду, а зімой такую, якая праз пару прастаяла ў стайні і крыху аблецілася. Мы пераканаліся, што калі зімой паіць карову халоднаю вадою, дык яна зьмяншае дзенную колькасьць нават да некалькіх літраў. Часу даеньня пільнуе Параска і зімой і летам па гадзіньніку: а 4-ай рана, а 12-ай у поўдзень і а 8-ай увечары. Ня доіць, покі ня вымые вымя цёплай вадой і вытра чыстай сьціркай дасуха, каб ня трэскаліся цыцкі. Доіць так, як яе ў школе навучылі, ня цягне пальцамі за цыцкі, бо тады трэба пальцы ў малако мачыць, а гэткім малаком і сама брыдзілася-б, доіць яна такім спосабам, што паціскае цыцку пальцамі згары ўніз. Пасьля яшчэ націрае вымя, паднімае яго ўгару, словам, як кажуць, масуе яго, як гэта робіць цялё пры слабамалочнай карове; тады ўдаецца выдаіць карову да канца, а апошняе малако выходзіць самае жырнае.

(Канец).

глиністых або беліцах-грунтох часамі робіцца вапнаваньне. Араць поле пад бульбу заўсёды трэба глыбей, як пад збожжа, бо толькі тады добра разьвіваюцца клубні, калі пад імі будзе дужа рыхлае зямлі.

Дзеля пасадкі трэба адбіраць здаровыя, правідловае формы, сярэдняе велічыні клубні—бульбіны і трэба правяліць іх дзень-другі на сонцы. Дробная бульба не надаецца для пасадкі, бо яна часта бывае недасьпелая і замала мае ў сабе пажывы для новых расьлін.

Калі выпадае, што для пасадкі бывае бульбы замала, то яе можна садзіць і палавінкамі, але разрэзваць трэба ня ўпоперак, а ўздоўж бульбіны, бо трэба ведаць, што пры верхнім канцы бульбіны заўсёды бывае больш вочкаў, з якіх выходзяць расткі і самі вочкі сільнейшыя, як зьнізу бульбіны. Наагул кажучы, рэзаная бульба заўсёды дае меншы ўраджай, як цэлая.

Пасадку бульбы робяць розна: пад плуг, пад лапату (рыдлёўку) і пад акучнік або маркер (значнік),

З гэтых спосабаў у нас на Беларусі самым распаўсюджаным ёсьць пасадка пад плуг, калі бульбіны кладуцца на дно баразны плуга адна ад аднае на 40—50 сантымэтраў, а другою баразною прыкрываюцца. Трэцюю баразну прапускаюць, у чацьвёртую—кладуць бульбіны і г. далей. Якая-б пасадка ні рабілася, садзіць глыбока бульбы ня трэба і пры пасадцы пад плуг ніколі ня трэба класьці бульбы проста на дно баразны плуга з левага боку на цьвёрдую зямлю, як гэта вельмі часта робяць, а трэба класьці, ідучы за плугам, з правага боку баразны на мягкую зямлю, бо ад гэтага спосабу бульба дужа лепш родзіць. Пры ўсялякай пасадцы бульба любіць частае акучваньне, (асыпаньне), сошкаю, ці матыкаю, але гэныя работы павінны быць скончаны да таго часу, пакуль бульба зацьвіце: тады ня можна чапаць. З пасадкаю бульбы вясною ня трэба вельмі сьпяшыць, асабліваа ў сакавіку, як гэта даволі часта робяць, бо ўсё роўна яна доўга ня ўсходзіць, а нават часта-густа згнівае ў халоднай зямлі, або маладыя расткі забівае мароз. Найлепш садзіць, калі зямля ўжо добра абагрэлася: чалавеку ў босую ногу ня холадна. Як-бы бульба ня была пасаджана, перад рсходамі яе трэба поле добра выбаранаваць, а пасьля або абагнаць акучнікам, (сошкаю), калі была пасадка пад плуг, або разоў два матыкаваць, калі пасаджана пад лапату.

Бульбу можна садзіць і на запаўшых нізкіх грунтох, толькі трэба наперад парабіць радкі-грэбяні, на якіх зьверху і садзяць яе. Раньнія гатункі бульбы называюць сталовымі, і яны амаль ня ўсе заўсёды маюць менш ураджайныя. З іх лепшымі гатункамі будуць: 1) Раньні рожавы або амэрыканскі, 2) Скарасьпейка—жоўтая і белая, 3) Карона-Царская—белая з белым мясам.

Сярэднія гатункі:

1) Сьняжынка — з белым мясам і скуркаю, 2 Імпэратар—Рыхтэра з вялікімі белымі бульбінамі, вельмі буйнаю батвою і ліловымі краскамі. 3) Прафэсар-Мэркэр—падобная да Рыхтэра і яшчэ больш ураджайная; 4) Алькаголь—круглыя жоўтыя, бульба сярэдняе велічыні, 5) Палтаўка-буйная, даўгаватая, беламясая бульба.

З позных гатункаў найбольш вядомы: 1) **Магнум-бонум** — з даўгаватымі жоўтымі бульбінамі.

З завадзкіх або фабрычных: 1) Саксонская лукавіца або фуксінка—беламясая з чырвонаю скуркаю; 2) **Чугунка** — з авальнымі сярэдняе велічыні бульбінамі з цёмнасіняй скуркаю і жоўтаватым мясам. 3) Нямецкі канцлер — з круглавострымі бульбінамі з чырвонаю скуркаю.

Кармавыя: — 1) Сіні волат — з вялікімі фіялетавымі бульбінамі. 2) Сілезія — белы, ураджайны гатунак і 3) Вольтман — чырвоны ўраджайны і мучністы гатунак. Наагул, цяпер гатункаў бульбы лічыцца больш, як 1500.

Па выкапаньні бульбы з поля, як-бы яе ні пераховўваць: у падвале, кучы або яме, трэба заўсёды заўважваць, каб тэмпэратура трымалася каля 1 град. R.

Пры большай цяплыні бульба курчыцца і прарастаець, а пры холадзе робіца салодкая і мерзьне. На дно купы або ямы добра пасыпаць вапны, якая выцягвае сырасьць, а капцы рабіць з душнікамі.

Сярэдні ўраджай бульбы з гэктару — 750 пуд., добры лічыцца да 1500 пуд., а бывае, што дае 1800 пуд. і больш з дзесяціны.

У малочных кароў сырая бульба павялічвае колькасьць малака, але яе трэба даваць рэзанаю больш, як 20-25 ф. на галаву ў дзень. Калі многа даваць, дык малако атрымлівае гаркаваты смак, а масла робіцца чырванаватым.

Коням даваць ня больш як 10 ф. на галаву ў дзень і то ў параным відзе з сечкаю. Вараная і халодная бульба вельмі трудна травіцца. Перамёрзшая бульба губіць больш палавіны сваё пажыўное сілы. Калі залішне даваць сырую бульбу, то яна выклікае ганячку, а ў цельных кароў — выкідыш, дзеля таго, што сырая бульба мае яд—**акрын**.

Калі бульба прарасьце, то ў вочках яе зьбіраецца яд—**салянін**, і скормліваць гэтакую сырую бульбу жывёлаю вельмі шкадліва: часта бываюць сьмяротныя выпадкі з жывёлаю. Бульба, якая паляжыць які час у падвале або ў яме. — мае большую пажыўную сілу, чымся толькі што капаная або дробная. *Я. Х.*

---

## Чаму масла ня зьбіваецца?

Досыць часта можна пачуць ад гаспадыні на вёсцы, што ня зьбіваецца масла. Каб зразумець гэную прычыну, трэба ведаць, што як у малаку, так і ў сьмятане жыр знаходзіцца ў відзе маленькіх жыдкіх капелек або клубікаў. Вось-жа ўсе маслабойкі робяцца так, што сьмятана ў іх паддаецца моцным ударам і патрасеньням, ад чаго жыравыя клубікі цьвярдзеюць і зьбіраюцца ў камячкі (грудкі). Каб масла было добрае і каб выхад яго быў поўны, г. з., што, каб з сьмятаны выдаляўся ўвесь жыр, трэба сьмятану зьбіваць пры пэўнай тэмпэратуры. Як пазнаць тэмпэратуру,- дзеля гэтага трэба купіць тэрмомэтр (цепламер) Рэомюра, у дзеравянай аправе, які паказвае градусы цяплыні і холаду, і каштуе вельмі нядорага.

Вось-жа, калі тэмпэратура сьмятаны больш, чым трэба, то сьмятана зьбіваецца вельмі хутка, але масла выходзіць мягкае і мажацца, як кажуць, словам выхад масла бывае няпоўны.

Калі-ж тэмпэратура зьбіваньня сьмятаны ніжэйшая, чым гэта трэба, то сьмятана ў маслабойцы будзе пеніцца (шумець), масла вельмі доўга ня зьбіваецца, а калі і выходзіць, то бывае

цьвёрдае, жорсткае і выхад яго будзе няпоўны. У залежнасьці ад пары году і корму каровы, тэмпэратура зьбіваньня масла трохі зьмяняецца: улетку павінна быць трохі ніжэйшаю, як зімою. Гэтак сама, калі карова добра корміцца атрубамі, буракамі, морквою, бульбаю або надта добрым сенам — канюшынаю, тэмпэратура трохі павінна быць ніжэйшая, чымся тады, калі корміцца саломаю і мякінаю. Наагул кажучы, трэба памятаць, што тэмпэратура зьбіваньня масла, асабліва ў новых маслабойках і пры зьбіваньні кіслае сьмятаны, павінна быць якраз 12 град., а калі б'юць масла з салодкае сьмятаны, дык тэмпэратура павінна быць — 10 град.

Правільнае зьбіваньне масла не павінна займаць часу *больш* як 40-50 мінут. Калі маслабойкаю зьбілі ўжо раз масла і зараз-жа рыхтуюцца ізноў зьбіваць, то гэты раз маслабойку або праўдзівей тэмпэратуру паставіць на 1 град. цяплей.

Калі масла адразу пачынае рабіцца вельмі малымі крупкамі, як мак, дык маслабойку трэба трохі астудзіць, але не вадою, а лепш кавалачкам лёду. Гэта найбольш практыкуецца ўлетку, калі цёплае паветра.

Зьбіваючы масла, ня трэба яго даводзіць, каб яно выходзіла ў відзе грудак, але, як толькі крупкі масла зробяцца з прасяное або грэцкае зярня, то зараз-жа перастаць зьбіваць, бо масла будзе, як кажуць, „сальнае“ і будзе мазацца, а выхад яго ўсё роўна ня будзе большы, калі доўга зьбіваць.

Усім вядома, што калі карміць малочную карову хлебнымі кормамі, то малако бывае гусьцейшае і жырнейшае. Карова прыбаўляе малака, калі есьць лісты шаўкавіцы (тутавага дзерава), вязу, укроп і аніс, і адразу зьмяншае, калі наесца палявога хвашчу, пятрушкі. Калі карова есьць папсованы корм, з няпрыемным пахам і смакам — гэта перадаецца малаку і нават маслу.

Так сама, калі карова пад'есьць дзікае цыбулі або палыну, то малако будзе нясмачнае і выхад масла кепскі.

Гэтак сама малодзіва вельмі шкадлівае для сыраварэньня і масла. Калі ў кацёл, дзе варыцца галяндзкі або швайцарскі сыр, уліць малодзіва, хоць і ад аднае каровы, то звараны сыр абавязкова пасьля папсуецца. Калі-ж малодзіва пападзе ў сьмятану, то масла вельмі трудна зьбіць і яно хутка горкне.

Вось дзеля чаго біць масла і варыць сыры з малака ад каровы пасьля цяленьня, трэба не раней, як праз 10-12 дзён.

*Я. Х.*

## Травасеяньне.

**Тымотка—(Phleum pratense).** Ёсьць два гатункі тымоткі—лугавая і сьцяповая, і тая і гэта маюць аднолькавыя каласкі, толькі ў сьцяповай каласкі карацейшыя і, калі сагнуць каласок, дык ён шчацініцца, а каласок лугавое—роўны, таўсьцейшы, тупы з канца, і яго можна сагнуць, а каласок будзе роўны.

Лугавая тымотка вельмі добра расьце на ўсялякіх грунтох, асабліва ў нашых старонах. Яна ўдаецца, як на сушэйшых грунтох, так і на тарфяністых землях. Трымаецца на адным месцы да 10 гадоў, а нават і да 15. Сярэдні ўраджай сена дае на другі год жыцьця 200 — 300 пуд., а няродка і да 800 пуд.; насеньня можна сабраць 20—25 пуд. з гэктару. Высяваецца, як мы ўжо казалі, найбольш разам з канюшынаю, або як мяшанка з іншымі травамі.

Калі сеюць у чыстым відзе, дык насеньня тымоткі бяруць 16 — 20 кгр. на гэктар, а ў мяшанцы з травамі яе бяруць ад 5 да 14 кгр. на гэктар.

Кілё насеньня каштуе ня больш, як паўтара злотага.

*Я. Х.*

# Корэспондэнцыі.

### Пацешылі...
(*Вялейка*).

31.XII.27 г. ў памешканьні Расейскае Гімназіі адбыўся передвыбарны мітынг, на якім прамаўлялі „г-да“ Батурлін, Кузьміцкі і іншыя. На аф'шах, паміж іншым, было напісана: „*Все Русские спешите посетить это собрание*“.

Зацікавіла і мяне, што-ж там будуць гаварыць „г-да“ з Р. Н. О., ды якія „*руския людзі*“ зьбяруцца?

Зьявіўшыся пунктуальна а гадз. 15, як было сказана ў афішах, на салі я знайшоў толькі 2 асобы, Батурліна і Кузьміцкага. Каля гадзіны 16 сабралася ўсяго „*истинно-русских людзей*“ некалькі асоб ды некалькі цікавых беларусаў, агулам асабаў 20.

Сход адчыніў адзін з прысутных, выясьняючы мэты яго — бягучыя выбары ў Сойм і Сэнат і ў зьвязку з гэтым заклікаў галасаваць за сьпіс. Р. Н. О. („Русское Народное Об'единение“). Пакуль прамоўца гаварыў аб „*житейском море, которое с яростью волнуется политическими страстями, наносящими ненависть и вражду меж людьми*“ прысутныя маўчалі. Нарэшце, прамоўца падышоў да пытаньня аб беларусах, кажучы: „*Белоруссов и украинцев, как национальности, мы не прызнаем, потому, что их нет*“. Чуеце, грамадзяне, коратка і ясна: „*Единая и неделимая*“. У адказ на падобнае чорнасоценае заяўленьне, прысутныя беларусы запратэставалі, на салі паўсталі спрэчкі і мітынг скончыўся.

Дзівуецца чалавек, няўжо „г-да“ Батурліны ня ведаюць таго, што ведама нават Парасцы. Беларусы былі і ёсьць, аб гэтым сьведчыць гісторыя. Беларуская, нацыянальная сьведамасьць расьце і з кожным днём пашыраецца. А вы „г-да“ Батурліны, прадстаўнікі Р. Н. О. на Віленскае ваяводзтва аб гэтым ня ведалі, даведаліся на мітынгу ў Вялейцы. Ласы на мандаты ў Сойм, хочацца вам беларускіх галасоў, але беларуская прыказка кажа, „і хочацца і колецца“.

Часы цяпер, „г-да“ Батурліны, іншыя. Ніякія варожыя сілы ня здолеюць адурманіць беларуса. Ен сьвядома ідзе шляхам да нацыянальнага вызваленьня.

Расейскай чорнай сотні няма месца сярод беларускіх сялянскіх мас.

*Дэмос.*

## Жадаем бясплатнае камасацыі!

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА.

### Арыштованыя беларускія паслы-грамадаўцы перавезены з Вронкаў у Вільню.

Польскія газэты падаюць, што 11.I.28 перавезены з Вронкаў у Вільню і пасаджаны на Лукішках арыштованыя ў справе „Грамады" паслы: Браніслаў Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Валошын, Мятла і грам. Бурсэвіч і Акінчыц; адначасна з гэтым арыштованы, выпушчаныя нядаўна, грам. Шпаркевіч і сьвяшчэньнік Коўш. Перавоз арыштованых мае сувязь з іх працэсам, які хутка мае пачацца ў Вільні.

### Новая беларуская часопісь.

Вышла новая беларуск. часопісь „Chryścijanskaja Dumka". Новая часопісь ставіць сваім заданьнем „пашыраць і паглыбляць навуку Хрыстуса і Яго сьв. Касьцёлу, як непарушную аснову адраджэньня і жыцьця народаў, як залог праўдзівага поступу і культуры. Раскрыць і хоць у меру сіл нашых зрабіць зразумелым і даступным сутнасьць хрысьціянскага ідэалу для нашага народу, яго практычную карысьць грамадзкую і культурную, а так-жа разьясьніць цэлую цьму беспадстаўных і варожых процiў яго закідаў, ёсьць нашай мэтай".

Новую часопісь, так патрэбную ў сучасны момэнт, вітаем з радасьцяй і жадаем ёй пасьпеху. Выдаўцом і рэдактарам часопісі зьяўляецца кс. Адам Станкевіч.

### Водгукі справы кс. Гадлеўскага.

Б. пасол Сойму Ярэміч вінаваціцца за тое, быццам у часе судовага працэсу вядомага дзеяча кс. Гадлеўскага прычыніўся да з'арганізаваньня дэмонстрацыі на вуліцах м. Вільні. Сьледчы судзьдзя ў гэтай справе дапрашаў пасла Ярэміча.

### Лёс Беларускага Народнага Тэатру.

З прычыны забароны ўладамі аб'яжджаць провінцыю, лёс Беларускага Народнага Тэатру астаецца нявырашаным. Цэнтральны Ўрад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, пры якім заснованы Тэатр, зьвярнуўся да ваяводы з просьбай адмяніць пастанову аб спыненьні дзейнасьці Тэатру.

### Беларускія лекцыі па радыё.

Таварыства „Польскае Радыё ў Вільні" увяло надаваньне па радыё лекцыяў пабеларуску. Беларускім аддзелам загадвае гр. Ад. Зянюк.

Штотыдня, пачынаючы ад 5 студня, чытаецца адна або дзьве лекцыі і ў кожны чацьвер а г. 17 надаецца „беларуская хроніка падчас г. зв. „Беларускай часіны".

Беларускае грамадзянства шчыра вітае ініцыятыву „Польскага Радыё" у Вільні, якое ўвяло ў сваю праграму „беларускі аддзел", які заахвоціць усіх беларусаў да ўстаноўкі радыё-адборнікаў, а польскаму грамадзянству пазволіць пазнаёміцца з культурным і грамадзк м жыцьцём беларускага народу.

## Яшчэ аб штрафах за табаку.

У дадатак да зацемкі, паданай у № 2 „Бел. Дня" „Аб штрафах за табаку", зьвяртаем увагу нашых чытачоў, што заявы аб зьмяншэньні назначанай акцызнымі ўрадамі кары трэба складаць у той акцызны ўрад, які гэную кару налажыў з просьбай аб скіраваньні справы ў суд. Справы гэныя судзіць будзе не Міравы Суд, а спэцыяльны суд скарбовы, істнуючы пры акружных судох.

Мусім тутака аднатаваць, што загад міністра скарбу прадбачыць зьмяншэньне кары толькі ў леташнім годзе і толькі ў тым выпадку, калі пры сьпісаньні пратаколу ня мела месца з боку пакаранага спраціўленьне ўладам.

Узор прашэньня гэткі:

Do Urzędu Akcyz i Monopolów Państwowych.
w . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . .
(імя і прозьвішча).
zamieszkałego . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . .
(адрэс)

**Podanie.**

Nie mając możności opłacenia nałożonej na mnie przez Urząd kary według orzeczenia karnego z dnia . . . . . . w sprawie powyższej składam rekurs, prosząc o skierowanie jej do Sądu, w celu złagodzenia kary.

(подпіс)

Dnia . . . . 1928 г.

# Апошнія навіны.

**С. С. С. Р. Рэпрэсіі процiў опозыцыі.** Г. П. У. выдала загад выслаць на ссылку ў найдалей паложаныя мясцовасьці Сібіры важнейшым опозыцыянэрам агулам 51 асобе, у тэм ліку Троцкаму, Ракоўскаму, Сьмілзе і іншым. Ссылаюць іх у мясцовасьці, адлеглыя на 500 вёрст ад чугункі. Урад мае выплачваць сасланым опозыцыянэрам па 9 рублёў у месяц. Такім чынам, Сталін хоча рашуча разьлічыцца з опозыцыяй і не дапусьціць да раскладу камуністычнае партыі. Загад аб высылцы опозыцыянэраў выклікаў трывожны настрой. Што раз, то горш, як бачым, дзеецца ў „раі" бальшавіцкім.

**Беларускія опозыцыянэры.** На другой сэсіі Ц. И. К'у Беларусі, якая адбываецца цяпер, выступіў рад опозыцыянэраў, якія ў вельмі вострай форме крытыкавалі палітыку Сталіна і яго староньнікаў. Паседжаньне мела настолькі неспакойны характар, што старшыня сэсіі Чарвякоў быў змушаны паседжаньне спыніць.

Савецкія газэты называюць беларускіх опозыцыянэраў контр-рэвалюцыянэрамі і дамагаюцца ад савецкага ўраду энэргічнай барацьбы з беларускай опозыцыяй. Вядомая рэч, што беларускія опозыцыянэры выступалі процiў палітыкі русыфікацыі і цэнтралізму, якую вядзе Сталін і яго кліка. За прыкладам Аляхновіча нават і беларусы-камуністыя, якія не перасталі быць беларуса-

мі, павандруюць на адпачынак на Салавецкія астравы. (Сдлавецкія астравы — найцяжэйшая катаржная турма на Белым моры).

**Савецкі пасол у Рыме.** Савецкім паслом у Рыме назначаны Курскі, б. Народны Камісар справядлівасьці.

**Нямеччына. Страшная кататастрофа ў Бэрліне.** Гэтымі днямі мела месца ў Бэрліне нябывалая катастрофа У рэзультаце ўзрыву ў пограбе вялікага мураванага дому, разваліласяя сьцяна дому, Шмат асобаў згінула. Дасюль дасталі 17 трупаў і шмат цяжка раненых. Ходзяць слухі, што ўзарваўся якісьці новы прэпарат, які вынайшоў хімік. Штаммэр, што над гэтым прэпаратам у пограбе працаваў Нававынайдзены прэпарат куды большай сілы, чымся дынаміт і нітрогліцэрына.

**Францыя.** Французскі ўрад, не чакаючы канца парлямэнцкае сэсіі, мае замер арыштаваць камуністычных паслоў. Урад хоча, такім чынам, пазбавіць камуністычных павадыроў магчымасьці выступаць пры выбарах. Урад у гэтай справе зьвернецца з прапазыцыяй да парлямэнту і паставіць пры гэтым вотум даверыя.

Усюды, як відаць, людзі дайшлі да пераканаmake, што камуністычная дэмагогія перашкаджае нармальнай працы.

**Англія.** Англійскі ўрад паведаміў Лігу Народаў, што ён у скорым часе перадасьць у Лігу проект аб агульнай бясьпецы.

**Румынія. Антэсэміцкія непарадкі ў Кішынёве.** Румынскія студэнты ізноў пачалі антыжыдоўскія беспарадкі. Паліцыю, якая старалася зьліквідаваць беспарадкі, студэнты сустрэлі рэвальвэрнымі стрэламі. Некалькі паліцэйскіх ранена.

**Польшча.** Польскі ўрад мае ў гэтых днях зьвярнуцца да літоўскага ўраду з прапазыцыяй пачаць перагаворы, згодна з пастановай Рады Лігі Народаў. Польшча пакажа месяц дату і праграму праектованых перагавораў.

**Латвія. Новы ўрад.** Новы ўрад стварыў Юрашэўскі. Коаліцыю твораць правыя і цэнтровыя групы.

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Сямён Гендаль (Латвія).** Ліст атрымалі Газэту і дадатак высылаем, Грошы перашлеце цэнным пісьмом.

**Язэп Лашкевіч** пошта Тэўлі. Грошы ў ліку 1 зл. атрымалі. Газэту ад 1.I.28 высылаем.

**Гэдзіч Антоні,** пошт. Цэцяроўка. Грошы 5 зал. і 50 гр атр мalі. „Беларускую Культуру“ нумары 1, 2-3 выслалі. Грош. м на календар перадалі ў кнігарню.

## Друкі Кр аёвага Народнага Саюзу і Беларускай Ра дыкальнай Народнай Партыі.

1) Да народа Літ.-Бел. Краю. Адозва Зьезду 27 лістапа да.
2) Да народаў Лі т.-Бел. Краю. Адозва Выканаўчага Камітэту К. Н. С. Літ.-Бел. Земляў „Аб'яднань не“.
3) Наш адказ „Вызва ленью“—лістоўка.
4) Асновы праграмы Б. Р. Н. П.
5) Да Беларускага Народу. Адозва Б. Р. Н. П.
6) **Як выбраць добрага каня** — брашура агр. Пачопкі—32 стр. Выданьне Б. Р. Н. П.

Усе гэтыя друкі можна атрымаць у Вільні ў Сэкратарыяце Краёвага Народнага Саюзу Л.-Б. Земляў **Mostowa d. № 9 m. 3,** і ў Рэдакцыі „Б. Д.“ **Cicha 4, m. 20.**


КУПЛЯЕМ УСЯЛЯКАЕ СЫР'Ё і ПЛАЦІМ НАЙБОЛЬШЫЯ РЫНАЧНЫЯ ЦЭНЫ.

Рэдактар-выдавец Ф. Ум стоўскі. Druk Józefa Zawadzkiego w Wilnie, вул. Сьв. Анны 3.